*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№36 красавік 2014***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

# Алесь Бяляцкі - 1000 дзён за кратамі

1000 дзён за кратамі знаходзіцца палітзняволены кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі.

Пра гэта ў інтэрвію карэспандэнту Радыё Рацыя Генадзю Барбарычу нагадала жонка палітвязня Наталля Пінчук.

Наталля Пінчук: Дата такая дастаткова сумная. Мы таксама прыкінулі, колькі ён увогуле пражыў дзён. Атрымліваецца недзе каля 18 800. І вось з гэтых 18 тысяч тысячу дзён ён знаходзіцца ў заключэнні ў даволі цяжкіх умовах.



РР: Якія звесткі даходзяць ад Алеся з калоніі? Які ў яго маральным і фізічны стан?

талля Пінчук: Што тычыцца звестак ад самаго Алеся, то бывае дастаткова цяжка атрымаць якую-небудзь канкрэтную інфармацыю. ¨н звычайна гаворыць, што ўсё ў яго нармальна. Але разам з тым мяне гэта і вельмі непакоіць, таму што я разумею - ён не хоча гаварыць і засмучваць мяне падрабязнасцямі свайго жыцця, падрабязнасцямі пра стан свайго здароў'я. А менавіта здароў'е мяне непакоіць найбольш, таму што ўмовы там дастаткова цяжкія. ¨н, акрамя таго, і працуе 6 дзён на тыдзень. Звесткі пра яго здароў'е, нажаль, я атрымліваю праз дастаткова ўскосныя крыніцы. Ведаю, што ён зараз знаходзіцца ў іхняй лякарні. Туды ён патрапіў у выніку атручвання. Праз дакументы, якія яшчэ раней удалося атрымаць з калоніі, таксама бачна, што ў яго праблемы з ціскам, чаго раней не было. Гэта ўжо відавочна набытае захворванне падчас знаходжання ў няволі. Можна ўзгадаць Мікалая Статкевіча, які таксама раней не меў праблем з ціскам, але ў гэтым годзе ў СМІ праходзіла інфармацыя, што ў яго была даволі цяжкая сітуацыя з ціскам. Гэта, зразумела, выклікае вялікі непакой і ў мяне і ў ва ўсіх родных палітзняволеных. Тое, якімі яны выйдуць, тое, які ў іх зараз стан здароў'я.

РР: А ці ў Вас не ўзнікала думак, што гэтае пагаршэнне здароў'я можа быць не толькі ад стрэсаў ці ад неналежнага ўтрымання зняволеных, але і штучна можа выклікацца?

Наталля Пінчук: Вось нажаль абмежаванасць інфармацыі можа выклікаць розныя думкі. Я ніякай такой інфармацыяй не валодаю. Але зразумела, што абдумваеш розныя варыянты ў гэтым сэнсе.

РР: Я бачу ў Вас на шафе цэлы блок цыгарэтаў. Мабыць, рыхтуеце передачу для Алеся?

Наталля Пінчук: Што тычыцца перадачы, то апошняя была адразу пасля Новага года. Па правілах, так бы мовіць, па нормах, наступную можна рыхтаваць праз 4 месяцы. І я рыхтую, але ж ніколі не можаш быць упэўнены, ці ўдасца перадаць гэтую перадачу, таму што ў адносінах да Алеся неаднаразова прымаліся меры, каб абмежаваць магчымасць перадаваць яму прадукты адсюль з волі.

Нагадаем, Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў зняволення нібыта за ўтойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры. Але, як лічаць праваабаронцы, яго віна не даказана. За асабістыя прыбыткі следства і абвінавачванне выдала сродкі, якія прызначаліся на дапамогу пацярпелым ад рэпрэсій і не належалі Бяляцкаму.

Праваабаронца адбывае пакаранне ў калоніі №2 у горадзе Бабруйску.

# Спорт - для спорту. Зварот праваабарончых арганізацый да ўрадаў краін-удзельніц Чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Менску

Чэмпіянат свету па хакеі пройдзе з 9 па 25 траўня 2014 года ў Мінску (Беларусь).

Мы, прадстаўнікі міжнародных і нацыянальных праваабарончых арганізацый (гл. спіс падпісантаў ніжэй), вітаем гэтую унікальную магчымасць беларускага народа атрымаць асалоду ад спартыўнага спаборніцтва, арганізаванага сваёй краінай, а таксама ўніверсальных каштоўнасцяў спорту.

Выходзячы далёка за рамкі гэтых каштоўнасцяў, кіраўніцтва краіны, у тым ліку прэзідэнт А. Лукашэнка, неаднаразова падкрэслівала, што чэмпіянат свету па хакеі з’яўляецца важнай палітычнай падзеяй. Зробленыя каментары не пакідаюць сумненняў у тым, што даслаўшы запрашэнні на чэмпіянат урадам іншых краінаў, кіраўніцтва краіны спрабуе выкарыстаць усе магчымыя сродкі, каб ператварыць міжнароднае спартыўнае мерапрыемства ў ідэалагічнае і палітызаванае шоу беларускага аўтарытарнага рэжыму.

Беручы пад увагу сістэматычныя і грубыя парушэнні правоў чалавека, якія адбываюцца ў Рэспублікі Беларусь, нашыя арганізацыі заклікаюць краіны, чые нацыянальныя каманды будуць браць удзел у гэтым спаборніцтве, перашкодзіць беларускаму ўраду выкарыстаць гэтую спартыўную падзею ў якасці палітычнай платформы. Спорт для спорту! Няхай падчас гэтай важнай падзеі пануюць універсальныя спартыўныя каштоўнасці, не падкрэсліваючы пры гэтым заслугі рэжыму Лукашэнкі, які асуджаны ўсёй міжнароднай супольнасцю.

Такім чынам, нашыя арганізацыі заклікаюць зацікаўленыя дзяржавы ўстрымацца ад накіравання афіцыйных ўрадавых дэлегацый для ўдзелу ў мерапрыемствах, звязаных з чэмпіянатам.

Аляксандр Лукашэнка кіруе краінай на працягу 20 гадоў. Сёння палітычна матываваны пераслед прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і апазіцыі з'яўляецца агульнай тэндэнцыяй, а абмежаванні палітычных і грамадзянскіх правоў грамадзянаў Беларусі ўсеахопнымі, як у нацыянальным заканадаўстве, так і на практыцы.

Дзевяць палітвязняў па-ранейшаму знаходзяцца ў зняволенні, нягледзячы на няспынныя заклікі аб іх вызваленні з боку беларускіх і міжнародных праваабарончых арганізацый, а таксама міжурадавых органаў: праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтра “Вясна” і віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалай Статкевіч, актывісты Андрэй Гайдукоў, Васіль Парфянкоў, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Эдуард Лобаў, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка. Умовы іх утрымання і стан здароўя выклікаюць сур’ёзную трывогу.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе і на постсавецкай прасторы, якая працягвае выкарыстоўваць смяротнае пакаранне. Тры чалавекі зараз чакаюць выканання смяротнага прысуду ў Беларусі [1]. Праваабаронцы неаднаразова заклікалі кіраўніцтва Беларусі ўвесці мараторый на смяротнае пакарання ў краіне, аднак прысуды па-ранейшаму выносяцца і выконваюцца.

Акрамя парушэння асноўных палітычных і грамадзянскіх правоў, шырока парушаюцца сацыяльна-эканамічныя правы, у тым ліку выкарыстоцваецца прымусовая праца. Няма сферы жыцця, дзе б не было грубых парушэнняў працоўных правоў. Не з’яўляецца выключэннем і падрыхтоўка да чэмпіянату свету па хакеі. Напрыклад, студэнты з розных устаноў былі вымушаны працаваць ў час так званых “суботнікаў” на будаўніцтве “Чыжоўка-Арэны” ў горадзе Мінску, дзе будуць праходзіць гульні падчас чэмпіянату.

Акрамя таго, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт афіцыйна заявіў, што дзеля правядзення чэмпіянату горад будзе “ачышчаны” ад так званых “асацыяльных элементаў”, гэта значыць бяздомных, алкаголікаў і прастытутак. Нядаўнія паведамленні прадэманстравалі метады “чысткі”, якія выкарыстоўвае рэжым. Варта адзначыць, што Беларусь актыўна прасоўвае затрыманне людзей, якія пакутуюць на алкагалізм і наркаманію, а таксама іх зняволенне ў лячэбна-працоўных прафілакторыях. Штогод гэтыя захады закранаюць тысячы людзей.

Адмовіўшыся ад удзелу ў палітызаваных мерапрыемствах чэмпіянату свету па хакеі, урады зацікаўленых краінаў дазволяць спартсменам і заўзятарам атрымаць асалоду ад маючых адбыцца спартыўных мерапрыемстваў, без падтрымкі тых парушэнняў, якія неаднаразова абвяшчаліся грубымі, сістэмнымі і сістэматычнымі Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый і іншымі міжнароднымі органамі.

[1] Яшчэ адзін чалавек, 23-гадовы Павел Сялюн, быў пакараны смерцю ў красавіку 2014 года. Гэта быў першы выкананы прысуд з 2012 года.

# На хісткай мяжы

***Куба, Паўночная Карэя, Нікарагуа, Сірыя, Венесуэла, Балівія, Арменія, Судан, Зімбабвэ, ну і канешне Расея. Вось кампанія адыёзных дзяржаваў з надзвычай сумнеўнай рэпутцыяй у якую трапіла і наша Беларусь, прагаласаваўшы на Генеральнай Асамблеі ААН фактычна супраць тэрытарыяльнай цэласнасці Ўкраіны. Кампанія, якая робіць ганьбу нашай Беларусі і яе народу з больш чым тысячагадовай еўрапейскай гісторыяй. Калі галасавалася рэзалюцыя па крымскім пытанні, Масква не дазволіла свайму васалу нават устрымацца, як зрабілі гэта некалькі дзесяткаў іншых, залежных ад расейскай палітыкі і эканомікі дзяржаваў. Так Беларусі яскрава паказалі яе месца ў палітычных раскладах. І што б ні казаў кіраўнік дзяржавы РБ, як бы ні імкнуўся дэманстраваць свой нейтралітэт у дачыненні да расейска-украінскіх закалотаў, сапраўдная сутнасць выкрываецца менавіта вось такімі галасаваннямі ў міжнародных структурах.***

І хоць рэзалюцыі гэтыя мала ўплываюць на нешта практычна, але ж яскрава паказваюць наша месца і нашу эфемерную незалежнасць. Сапраўды, што ж асталося ад нашага суверэнітэту? Назва Рэспубліка Беларусь – дык усходнія суседзі па-сутнасці яе так і не прызналі, называючы нас па-ранейшаму на савецкі капыл “Белоруссией”. Тытул кіраўніка “прэзідэнт” – дык у той жа расейскай федэрацыі розных прэзідэнтаў не менш дзесятку! Свае грошы і пашпарты – дык іх можна вывесці з абарачэння і памяняць нібы фанцікі, як паказвае досвед Крыму, за нейкі месяц. Усё, больш нічога… Ні войска, ні межаў, ні сваёй культурнай разгалінаванай прасторы, ні фактычнай дзяржаўнасці мовы тытульнай нацыі.

Невыпадкова пасля гэтага сумнага, але зусім не сенсацыйнага факту галасавання ў ААН, цэлы шэраг публіцыстаў і аналітыкаў адгукнуліся трывожнымі артыкуламі, у якіх выказваецца хісткасць пазіцый суверэннай Беларусі і яе кіраўніка. За 20 гадоў свайго кіравання Аляксандар Лукашэнка сапраўды паставіў Беларусь перад рэальнай пагрозай страты незалежнасці. 20 гадоў нас цягнулі назад у Савецкі саюз і цяпер, асабліва пасля імклівага паглынання Расеяй Крыму, наша суровая рэальнасць – гэта пратэктарат Масквы, поўная ад яе залежнасць. Кіраўнік Беларусі і сам зараз апынуўся ў вельмі цяжкім стане, думаецца ён вельмі цяжка асабіста перажыў крах прэзідэнта суседняй Украіны Януковіча.



Вось ён быў – здавалася б такі ўпэўнены і досыць магутны Януковіч. І вось яго фактычна няма – застаўся ні то двайнік, ні то цень, ні то прывід, які ўжо нічога не вырашае. Зразумела Лукашэнку і іншае – ніхто яго ў разе пагрозы звонку адхілення ад улады ў Беларусі не абароніць, сілавыя структуры і спецслужбы на баку толькі таго, хто ўсё вырашае. А ўсе гэтыя так званыя міністры, дэпутаты, вертыкальнікі здрадзяць пры першай жа сапраўднай небяспецы.

У каламутнай “саюзнай” вадзе на фоне расейска-украінскіх канфліктаў кіраўнік Беларусі спрабуе і будзе імкнуцца далей вылавіць сваю “рыбку”. Трэба ратаваць не толькі сваю пахіснуўшуюся рэпутацыю, але і гаспадарчыя інтарэсы. Думаю, што гэта ў той ці іншай ступені “гаранту” зноў удасца. І тут не пагаджаюся з думкай некаторых палітолагаў, якія лічаць, што Крэмль можа паставіць на іншага чалавека. Пры ўсёй знешняй “ярשыстасці” кіраўніка Беларусі, ніхто на постсавецкай прасторы не праводзіў крамлёўскую палітыку з такой зацятасцю і паслядоўнасцю. Аляксандар Лукашэнка проста незаменны для Масквы, калі ж яна надумаецца яго змяніць на іншага стаўленніка – можа фатальна памыліцца для сябе.

¨сць і іншы шлях для кіраўніка Беларусі – пачаць працэс грамадзянскага прымірэння. Пад Вялікдзень выпусціць усіх палітвязняў, прымеркаваць да чэмпіянату свету па хакеі дазвол выкарыстоўваць нацыянальную сімволіку, перастаць пераследаваць людзей паводле іх перакананняў, даць сапраўдную прастору беларускай мове. Толькі, думаецца, на гэта сённяшні рэжым у Беларусі нездольны. А таму, наадварот, трэба чакаць далейшага ўзмацнення рэпрэсій, пераследу іншадумцаў і далейшага здушэння ўсяго нацыянальнага. Беларуская супольнасць за 20 гадоў не здолела стварыць альтэрнатыўных формаў супраціву і таму зараз, як ніколі ў найноўшай гісторыі, будзе пад пагрозай.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Міхась Кукабака: Галоўнае - не губляць веру

***25 красавіка скончыўся візіт на радзіму Міхася Кукабакі. Непажаданы для ўладаў савецкай Беларусі дысідэнт, гледзячы на сённяшняе жыццё краіны, адзначае, што сітуацыя для праваабаронцаў не простая, як і ва ўсіх краінах з посттаталітарнымі рэжымамі, але раіць не губляць веру.***

За чатыры дні знаходжання ў Беларусі госць Праваабарончага цэнтра «Вясна» пабываў у Бабрус-



ку - горадзе свайго дзяцінства, а затым і зняволення, там у цеснай сяброўскай атмасферы ён пагутарыў з землякамі, сярод якіх былі журналісты, праваабаронцы і, што асабліва прыемна, стары прыяцель, з якім калісьці жылі ў адным інтэрнаце. Там жа праходзілі здымкі дакументальнага фільма пра новую сустрэчу з гэтым горадам, у якім, па прызнанні героя фільма, «нічога не мяняецца».

Сваімі ўражаннямі пра Мінск і Бабруйску Міхась Ігнатавіч дзяліўся ўжо на наступны дзень у сталіцы падчас сустрэчаў у офісах Беларускай асацыяцыі журналістаў і Беларускага Хельсінкскага камітэта.

Увечары 24 красавіка сустрэча з вядомым дысідэнтам адбылася ў офісе TUT.BY,

куды прыйшлі журналісты, яго старыя знаёмыя - мастак Аляксей Марачкін, вядомы сёння палітычны аналітык Раман Якаўлеўскі, гісторык і выдавец Алег Дзярновіч, а таксама праваабаронцы і сваякі палітвязняў - маці Эдуарда Лобава Марына Лобава, жонка Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук і жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч.

Удзел у гэтай публічнай сустрэчы прымалі намеснік кіраўніка ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч, вядомы юрыст з БХК Гары Паганяйла, сцэнарыст дакументальных фільмаў Паліна Сцепаненка.

Адкрываючы гэтую сустрэчу, Валянцін Стэфановіч назваў яе сімвалічнай, паколькі яна праходзіла ў святле украінска-расійскага канфлікту, калі адбываюцца спробы рэвізіі савецкай гісторыі і стварэння адзіна «правільнай» гісторыі. ¨н адзначыў, што «ўжо выраслі цэлыя пакаленні, якія ведаюць пра СССР толькі па расказах бацькоў, іх успамінахпра шчаслівае піянерскае дзяцінства». Праваабаронца прывёў паралелі паміж фактамі з жыцця Міхаіла Кукабака і сітуацыяй з сённяшнімі палітычнымі вязнямі: «Міхась Ігнатавіч быў асуджаны за заклік да байкоту выбараў, у зняволенні яму неаднаразова прапаноўвалі пісаць прашэннепра памілаванне...».

Падчас сустрэчы савецкі дысі-



дэнт распавёў пра тое, як ён самастойна прыйшоў да ідэі антысаветызму, якімі спосабамі спрабаваў супрацьстаяць камуністычнай дыктатуры, прыгадваючы розныя жыццёвыя гісторыі. А таксама - як яму даводзілася выжываць ў працяглым зняволенні ва ўмовах тур-



маў, лагераў і псіхіятрычных лякарняў.

Сустрэчы з журналістамі працягнулася і ў дзень ад'езду. 25 красавіка Міхась Кукабака быў запрошаны ў студыю беларускай службы Радыё Свабода - на гэтай радыёстанцыі ў канцы 1970- х быў зачытаны яго зварот да старшыні КДБ СССР Андропава. У інтэрв'ю Радыё Свабода на пытанне аб тым, ці змянілася Беларусь з савецкіх часоў, госць адказаў: “¨сць бліжні ракурс, а ёсць дальні. Калі казаць з дальняга ракурсу – змены вельмі вялікія. Нават той факт, што мы з вамі тут сядзім, што кожны можа без асаблівых дазволаў пакінуць краіну, з'ехаць – гэта таксама змены. А вось з блізкай адлегласці тое, што вы апісваеце [у гэты дзень былы палітвязень Зміцер Дашкевіч быў асуджаны да 25 сутак арышту; раней быў затрыманы актывіст БНФ Ілля Дабратвор, а актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі, асуджаны на 10 сутак арышту, аб'явіў сухую галадоўку - рэд.], проста капіруе Маскву,

Расію. Гэта паўсавецкая сістэма.Але ў савецкі час гэта ўжо



не 25 сутак, а тры гады. Хоць фармальна быў штраф ад 100 рублёў, але я такога не чуў, каб штраф давалі. Тры гады – і ўсё.- Таму пазітыў нейкі ёсць. Не такі, вядома, як у Прыбалтыцы, Малдове, але ёсць. Такая рэчаіснасць. Сумна, але цяжкі, доўгі шлях да свабоды".

Вяртаючыся ў Маскву, Міхась Кукабака сказаў, што агульнае ўражанне ад Беларусі ўсё ж пазітыўнае. Кажучы пра ўмовы, у якіх сёння працуюць беларускія праваабаронцы, ён таксама не ўтрымаўся ад параўнанняў з савецкім часам: "Як кажуць, скрозь скрыгат зубоў, з незадаволенасцю, але Лукашэнка сябе прытрымлівае... Бо ў савецкі час нават блізка нельга было нейкай там офіс праваабаронцам мець... Такое было зусім немагчыма ў Савецкім Саюзе. Нават калі людзі проста збіраліся пагаварыць на кватэры, то тут жа пад вокнамі з'яўляліся машыны з праслушкай... Вядома, сітуацыя для праваабаронцаў не простая ў краінах з посттаталітарнай рэжымамі - і ў Беларусі, і ў Расіі, і ў Казахстане - усюды так. Але ўсё ж гэта не савецкі час - павольнымі крокамі, спатыкаючыся, мы ідзем да прагрэсу..."

Гаворачы пра сённяшніх палітычных зняволеных, былы неаднаразовы палітвязень раіць: «Галоўнае - не губляць веру. Чалавек хоча жыць, хоча дзейнічаць, быць карысным людзям. Усякія турмы, краты, тэрміны ўсё ж скончаюцца. Трэба верыць. У зняволенні мне псіхалагічна надаваў аптымізму сам гэты элемент барацьбы: «Шыш вам - нічога ў вас не атрымаецца. Хоць усё жыццё прасяджу, ды чорта з два вы мяне зломіце!»



Візіт Міхася Кукабакі ў Беларусі праходзіў з 22 па 25 красавіка па запрашэнні Праваабарончага цэнтра "Вясна" . Сустрэчу з самым вядомым беларускім дысідэнтам арганізацыя прымеркавала да 18-годдзя сваёй дзейнасці.

# Ці могуць палітвязні разлічваць на вызваленне па амністыі?

***21 красавіка стала вядома, што ў парламент унесены законапраект аб амністыі на 2014 год. Нацыянальны прававы інтэрнэт-партал пакуль не апублікаваў дакумент.***

Але з паведамленняў прэс-службы Лукашэнкі вядома, што амністыя не будзе распаўсюджвацца на асобаў, якія здзейснілі цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы, а таксама не выканалі прадугледжаныя праектам закона ўмовы для вызвалення ад крымінальнай адказнасці і пакарання.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч кажа, што папярэднія законы "Аб амністыі" пад гэтым разумелі парушэнне рэжыму выпраўленчай установы, а таксама некампенсаваную пазыку перад дзяржавай.

Ці могуць палітвязні разлічваць на вызваленне па амністыі?

Намеснік старшыні ПЦ "Вясна"



кажа, што большасць з іх асуджана за цяжкія злачынствы, таму і Эдуард Лобаў, і анархісты наўрад ці могуць быць вызваленыя па амністыі сёлета. Андрэй Гайдукоў па тэрміне выходзіць на волю 8 мая.

Тэарэтычна пад амністыю трапляе толькі Васіль Парфянкоў, які пакуль не атрымаў статус злоснага парушальніка рэжыма. А вось Алесь Бяляцкі такі статус мае, таму і ў 2012 на яго не распаўсюджвалася амністыя.

"З іншага боку, спагнанні вязням выносіць адміністрацыя калоніі. Яна ж можа ў любы момант іх скасаваць. Таму калі будзе палітычная воля кіраўніцтва краіны на вызваленне Бяляцкага, ён падпадзе пад амністыю", - заўважыў праваабаронца.

# Пра кнігі і не толькі

***Адшукаць у Беларусі паштоўку па-беларуску не самая простая справа. Пра гэта ўжо не раз пісалася. Прынамсі, мінулым годам я з прыкрасцю ўжо абмалёўваў сваё падарожжа ў беларускія кнігарні і ў пошуках для палітвязняў прывабнай паштоўкі на той мове, якой яны не зракліся нават там. І хіба не варта было б зноў падымаць такую балючую тэму, каб цяпер не адбылося аніякіх зменаў. Ды вось змены адбыліся. Але распавяду ўсё па парадку.***

На Вялікдзень у беларусаў здаўна прынята віншаваць блізкіх і знаёмых. І тут фантазія ў выбары сувеніраў можа расцягвацца да бясконцасці. Галоўнае памятаць пра традыцыйны мінімум. Нельга забыцца і пра тых, хто за кратамі. Гэта і хрысціянская традыцыя, ды і проста людская. А вось ім там у астрозе, нават той звычайны мінімум у выглядзе чырвонага яйка не перадасі. Не прадугледжаны для гэтай катэгорыі людзей святочныя перадачы па-за вызначанай квотай. Усё што можна ім паслаць, дык гэта паштоўку. Таму зразумела, што хочацца не абы якую. Ну каб хоць на нашай мове была.

– Па-беларуску з Вялікаднём у нашай краме няма, – адказвае мне руплівая прадавачка, інтэнсіўна стараючыся прыпомніць, ці бачыла яна хоць дзе-небудзь такі цуд. – ¨сць толькі з надпісам “Віншую”. А астатнія ўсе па-руску.




Па-руску паштоўкамі заваленая ўся крама. Якіх хочаш. І з Пасхай, і з кастрычніцкай рэвалюцыяй, якая тую пасху паставіла па-за законам. Я не хацеў іх нават разглядаць, каб час не губляць, і ўжо збіраўся рухацца ў пошуках патрэбнага ў іншае месца, як вочы спыніліся на шэрагу новых паштовак. Абсалютна новых, аналагаў якіх я яшчэ ў мінулым годзе не бачыў. Галоўным іх фонам быў расійскі сцяг.

Тыя, хто наіўна мяркуе, што зялёныя чалавечкі на Украіне з'явіліся выпадкова, і гэта не ёсць даўно спланаваная агрэсіяй, хай проста завітаюць у беларускую кнігарню. І хай пераканаюцца, як доўга ўжо і мэтна ідзе гэтая вайна, якую інакш чым генацыдам не назавеш. Бо яе даўно вызначаны і спланаваны вынік – знішчэнне і ўкраінскай і беларускай ідэнтычнасці.

Паліцы беларускіх кнігарняў ломяцца ад такіх кніжак як “Берыя”, “Сталін”, “Сталінскі маршал Г. Жукаў”... Вялікімі бліскучымі літарамі наведвальнікам задаюцца пытанні “За што Сталін вёў народы?” І тут жа “Сталінскія дэпартацыі – гэта самавольства, ці справядлівая адплата?”. Вось так! Аказваецца, дэпартацыя цэлых народаў можа быць справядлівай адплатай. Нездарма крымскія татары так напалохаліся “вызваліцеляў”. Як бачым па новай літаратуры, ідэолагі даўно падрыхтоўваюць людзей на былой савецкай прасторы да канкрэтных меркаванняў пра справядлівасць. І як ісціна ў апошняй інстанцыі гучаць назвы іншых “бестсэлераў” – “Сталін – як гэта было. Феномен 20-га стагоддзя”. “Сталінскія рэпрэсіі уратавалі СССР?” Ну і зразумела, негатыўныя думкі наконт сталінскіх рэпрэсій развейваюцца як ілжывыя, калі побач з вышэйзгаданай літаратурай стаяць “Праўда пра вайну, або чаму лгуць гісторыкі”, ці “1937 год без хлусні”.

А чаго толькі вартая такая назва кнігі як “Лаўрэнцій Берыя. Мой палітычны запавет”. Калі Берыя зрабіў той запавет, і ці рабіў увогуле, гэта ўжо няважна. Сама назва ёсць савецкім лозунгам і не прадугледжвае сумневу ў яго праўдзівасці. Ну і зразумела, не абавязвае чытаць штосьці далей. Хопіць і гэтага.

¨сць, дарэчы, у гэтай жахлівай серыі кніжкі і пра Беларусь. Сярод іх такія як “Беларускія калабарцыяністы. Супрацоўніцтва з акупантамі на тэрыторыі Беларусі. 1941 – 1945”. Ну і зразумела, што падобная літаратура выдадзена на “общепонятном языке”. І па кошту даступная. І калі нехта сумняваецца, што гэта адзін з элементаў рэанімацыі савецкай імперыі, якая ініцыюецца Крамлём па ўсіх кірунках, то тады можна засумнявацца і ў існаванні гравітацыі.

Паштоўкі для вязняў я ўсё ж знайшоў. Яшчэ засталося крыху па-беларуску. Праўда, прадавачка доўга не магла зразумець, што такое Вялікдзень. Прыйшлося паказаць пальцам што я ад яе хачу. Адчуў сябе іншаземцам. А кім адчувала сябе яна, як я растлумачыў што такое Вялікдзень, я не ведаю.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на травень 2014 году

**2 траўня**

75 гадоў таму (1939) – Памёр Іван Сініцкі, беларускі мемуарыст, падарожнік, дасьледнік Новай Зеляндыі, удзельнік беларускага руху пачатку 20 ст.

60 гадоў таму (1954) – У Вільні памёр Павал Пякарскі, беларускі каталіцкі сьвятар. У 1925-32 служыў пробашчам у Жупранах, быў кіраўнікім Ашмянскага дэканату. Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

**3 траўня**

Сусьветны дзень свабоды друку.

**4 траўня**

215 гадоў таму (1799) – У мяст. Мір нарадзіўся Фларыян Бохвіц, асьветнік, філосаф, пісьменьнік.

**6 траўня**



580 гадоў таму (1434) – Вялікі князь ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч у Троках выдаў прывілей, які быў скіраваны на зьядналньне вакол яго феадалаў.

90 гадоў таму (1924) – У Лідзе нарадзіўся Данат Яцкевіч, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія).

**7 траўня**

Сьвята абраза Маці Божай Жыровіцкай.

220 гадоў таму (1794) – Выданы Палянэцкі (каля мястэчка Палянэц) універсал Тадэвуша Касьцюшкі – спроба рэфармаваньня становішча сялян у Рэчы Паспалітай.

220 гадоў таму (1794) – Пад Палянамі (Ашмянскі пав.) адбылася бітва паміж паўстанцамі і расейскім войскам.

8 траўня

340 гадоў таму (1674) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Ян Сабескі (быў ім да 1696).

**11 траўня**

25 галоў таму (1989) – У Сібіры памёр Сяргей Гайка (нар. у 1912 у в. Ясьвілы, Вараноўскі р-н), беларускі журналіст, вязень ГУЛАГу.

**13 траўня**

Сьвята Гарадзенскай грэцка-каталіцкай парафіі Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме.

135 гадоў таму (1879) – У в. Задзьвеі (Наваградзкі пав.) нарадзіўся Янка Серада (згінуў бязь вестак пасьля 19.11.1943), дзеяч беларускага нацыянальнага руху, старшыня прэзідыуму Рады БНР.

**15 траўня**

105 гадоў таму (1909) – У в. Бойдаты (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Язэп Найдзюк (Александровіч), дзеяч заходнебеларускага вызвольнага руху, выдавец, гісторык. Аўтар кнігі "Беларусь учора і сяньня".

70 гадоў таму (1944) – У в. Занюкі (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Антон Сьцяпура, дзеяч беларускага руху ў Гародні, сябра БНФ.

**17 траўня**

80 гадоў таму (1934) – Расстраляны Алесь Салагуб, беларускі паэт, публіцыст. Нараджэнец в. Зарудзічы (Смургонскі р-н).

**18 траўня**

Міжнародны дзень музеяў.

**19 траўня**

Сьвята Слонімскай грэцка-каталіцкай парафіі Сьвятой Тройцы.

**20 траўня**

715 гадоў таму (1299) – Памёр Даўмонт, князь нальшчанскі і пскоўскі. Кананізаваны праваслаўнай царквой.

**22 траўня**

115 гадоў таму (1899) – У в. Малыя Азяранкі (Ваўкавыскі р-н) нарадзіўся Мікола Чарнецкі, беларускі публіцыст, педагог, грамадзкі дзеяч.

**24 траўня**

Дзень славянскай пісьменнасьці.

**26 траўня**

20 гадоў таму (1994) – У Сыднэі (Аўстралія) у аўтамабільнай катастрофе загінуў Кастусь Сіткоўскі, беларускі настаўнік, эмігрант (Аўстралія). Нараджэнец Наваградку.

15 гадоў таму (1999) – Памерла Лідзія Ялоўчык (у замужжы Лісок), беларуская пісьменьніца, паэтка, педагог. Нараджэнка в. Марцянаўцы (Ваўкавыскі р-н).

**28 траўня**

90 гадоў таму (1924) – У в. Мікалаева (Івейскі р-н) нарадзіўся Леанід Побаль, беларускі археолаг.

**29 траўня**

105 гадоў таму (1909) – У Ваўкавыску нарадзілася Яніна Жэймо, акторка тэатру і кіно.

**30 траўня**

185 гадоў таму (1829) – Памёр Францішак Сапега, генерал, удзельнік паўстаньня 1794 г, яго кіраўнік у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах. Трымаў у Дзярэчыне тэатар.

**31 траўня**

90 гадоў таму (1924) – У Пазнані (Польшча) памёр Канстанцін Горскі, кампазітар, музыкант-скрыпач. Нараджэнец Ліды.

35 гадоў таму (1979) – У Амстэрдаме (штат Новы ¨рк, ЗША) памёр Францішак Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, рэлігійна-асьветніцкі публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі (Францыя, Бельгія, ЗША). Нараджэнец в. Чухны (Смургонскі р-н).

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
красавік 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

